[12] Там же. Л. 81.
[13] Там же. Л. 92.
[14] Там же. Д. 61. Л. 3.
[15] Там же. Л. 43.
[16] Там же. Л. 57.
[17] Там же. Л. 74.
[18] Там же. Л. 76.
[19] Там же. Д. 65. Л. 6.
[20] Там же. Л. 40.
[21] См.: Высочайше утвержденное мнение Государственного Совета о распространении законоположений 12 июля 1889 года о преобразовании крестьянских и судебных учреждений на губернии Витебскую, Минскую и Могилевскую // Полное собрание законов Российской империи. СПб., 1900. Т. 11. С. 762–764.
[22] См.: НИАБ. Ф. 1595. Оп. 1. Д. 65. Л. 239.
[23] Там же. Л. 355.
[24] Там же. Л. 357.
[25] Там же. Л. 361–366.

Поступила в редакцию 20.01.2014.

***Анна Анатольевна Страленя*** – аспирантка кафедры истории Беларуси нового и новейшего времени. Научный руководитель – кандидат исторических наук, доцент, заведующий кафедрой истории Беларуси нового и новейшего времени А. Г. Кохановский.

*УДК 392.35(=161.3)*

*Н. М. КАРБАЛЕВІЧ*

# ТАЛАКА ЯК МАДЭЛЬ ТРАДЫЦЫЙНАГА ГРАМАДСКАГА ДЗЕЯННЯ БЕЛАРУСКІХ СЯЛЯН (другая палова XIX – пачатак XX ст.)

Посвящена исследованию толоки – формы общественного взаимодействия белорусских крестьян. На основе систематизации источников анализируется роль толоки в общественной жизни белорусских крестьян. Работа основывается на методах сравнительного, структурного и функционального анализов. По итогам исследования представлена структурно-функциональная модель толоки как общественного действия. Делается вывод о разнообразии функций толоки; упоминаются ее следующие функции: коммуникативная, социализации, экономическая, поддержания социальной стабильности, игровая, психологическая, брачная и обрядовая. Обозначаются такие структурные элементы толоки, как субъекты, мотив, атрибуты, ситуация, регуляторы, процесс действия, результат, рефлексия; определяются принципы их включения в общую модель толоки и осуществления в реальной общественной жизни белорусских крестьян.

***Ключевые слова:*** толока; крестьянская община; громада; общественные взаимоотношения; формы общественного взаимодействия; социальная реальность; модели поведения.

The article is devoted to the study of talaka – a form of social interaction of Belarusian peasants. The role of talaka in the social life of Belarusian peasants is analyzed on the basis of systematization of sources. The research work is based on the method of comparative analysis method, structural analysis and functional analysis method. According to the research the structural and functional model of talaka as social action is presented. It is concluded that the functions of talaka were diverse; the following functions of talaka are mentioned: communicative function, the function of socialization, economic function, the function of maintaining social stability, game function, psychological function, wedding function, ceremonial function. The structural elements of talaka are denoted as the subjects, the motive, the attributes, the situation, the regulators, the process of action, the result, the reflection; the principles of inclusion of these structural elements in the general model of talaka and the role of these elements in a real social life of Belarusian peasants are defined.

***Key words:*** talaka; peasant community; gramada; social relations; forms of social interaction; social reality; patterns of behavior.

Ва ўсе часы ўмовы сумеснага існавання калектываў людзей вымагалі стварэння традыцыйных мадэляў паводзін, якія забяспечвалі б максімальны ўзровень сацыяльнага камфорту. У асяродку беларускага сялянства сацыяльна пажаданыя алгарытмы паводзін натуральным чынам вынікалі з асаблівасцей вясковага жыцця. Адной з найбольш распаўсюджаных мадэляў грамадскага дзеяння з'яўлялася такая форма грамадскіх узаемаадносін, як талака, характарыстыкі якой вылучаюцца паводле скіраванасці дзеянняў, зместу і формы існавання, сацыяльнага складу ўдзельнікаў.

Англійскі антраполаг, заснавальнік структурнага функцыяналізму А. Р. Радкліф-Браўн прыйшоў да высновы, што сацыяльнае жыццё супольнасці вызначаецца як функцыянаванне сацыяльнай структуры, а функцыя ўсялякай дзейнасці, што паўтараецца, ёсць тая роля, якую гэтая дзейнасць адыгрывае ў сацыяльным жыцці ў цэлым, а таксама ўнёсак, які яна робіць у падтрыманне непарыўнасці структуры[1]. Менавіта з гэтай пазіцыі асаблівую цікавасць выклікае аналіз структуры і функцый традыцыйнай для беларускага сялянства формы грамадскіх узаемаадносін – талакі. У дадзеным пытанні паняцце аб функцыі таксама цягне за сабой паняцце аб структуры, якая падтрымліваецца працэсам жыцця і забяспечваецца ўзаемадзеяннем складовых адзінак[2].

Паводле А. Р. Радкліфа-Браўна, характар сацыяльнай структуры павінен апісвацца праз мадэлі паводзін, у адпаведнасці з якімі індывіды і групы імкнуцца будаваць свае ўзаемаадносіны; гэтыя мадэлі часткова фармалізаваныя правіламі, якія ў грамадстве вызначаюцца як нормы этыкету, маралі і права[3]. У дадзеным даследаванні была здзейснена спроба акрэсліць аспекты сацыяльнай структуры формы грамадскіх узаемаадносін на падставе вылучэння ўмоўнай мадэлі паводзін падчас пэўнага калектыўнага грамадскага дзеяння беларускіх сялян, а менавіта талакі. Паняцце аб функцыі такога дзеяння выкарыстана для пазначэння ўзаемасувязі паміж сацыяльнай структурай і працэсам грамадскага жыцця[4]. Б. Маліноўскі наступным чынам характарызуе сутнасць гэтага паняцця: «Функцыя заўсёды

абазначае задавальненне пэўнай патрэбы, ад найпрасцейшага акта харчавання да свяшчэннага рытуалу прычасці, у якім ужыванне ежы звязана з цэлай сістэмай вераванняў, што вызначаюцца культурнай неабходнасцю спалучыцца з жывым Богам»[5] (тут и далей пераклад наш. – *Н. К.*).

Рэальны працэс сацыяльнага жыцця ў той ці іншай ступені заўсёды рэгламентуецца пэўнай сацыяльнай структурай і выконвае пэўную функцыю ці функцыі ў кантэксце грамадскіх зносін. Такім чынам, гэтыя тры паняцці – працэс, структура і функцыя – складаюць адзіную тэорыю, гэта значыць схему інтэрпрэтацыі, прымяняльную да сацыяльнай сістэмы[6]. Аналіз мадэлі талакі грунтаваўся ў тым ліку і на прапанаваным французскім антраполагам К. Леві-Стросам наступным прынцыпе структурнага аналізу, які «павінен адпавядаць фактам, адказваць крытэрыю простасці і мець тлумачальную моц»[7]. І тут нельга не пагадзіцца з меркаваннем А. Р. Радкліфа-Браўна аб тым, што «першым крокам у нашых спробах зразумець устойлівыя рысы той ці іншай формы грамадскага жыцця павінна быць знаходжанне яе месца ў сістэме, часткай якой яна з'яўляецца»[8].

Талака была формай узаемаадносін, заснаванай на сумеснай добраахвотнай бясплатнай працы ў дапамогу селяніну, які талаку склікае. А. К. Сержпутоўскі ў дачыненні да палескага рэгіёна апісвае гэтую форму грамадскіх зносін так: «…талака, гэта значыць дапамога мірам у выкананні вялікай ці цяжкай справы, непасільнай аднаму сямейству»[9].

За працу ўдзельнікаў талакі часцей за ўсё частавалі ежай і гарэлкай. «У беларусаў вельмі распаўсюджаны звычай склікаць дапамогу, ці "талаку", у час збору хлеба. На талаку склікаюць суседзяў з вечара, абяцаючы ім удосталь водкі, ці, як тут кажуць, "гарэлкі". Жанчын заклікаюць для жніва і выбару ільну, а мужчын – на касьбу, звозку з палёў хлеба і вывазку гною. Для апошняй работы сяляне з'язджаюцца да таго, хто іх паклікаў, з самага ранку, са сваімі сем'ямі і коньмі. Спачатку іх частуюць гарэлкай і закускай, а затым пачынаецца дружная праца. Дарослыя мужчыны выграбаюць і накладаюць гной на драбіны, хлопчыкі і падлеткі адпраўляюцца з гэтымі драбінамі ў поле, там бабы і дзяўчаты размётваюць па ніве прывезенае ўгнаенне. І ў полі, і ў хлявах, і на двары – тлум, рух, говар, смех і песні»[10]. Як бачна, талака была не толькі сумеснай працай, але і сродкам кантактавання паміж абшчыннікамі. Можна вылучыць камунікатыўную функцыю талакі, а таксама функцыю сацыялізацыі: падлеткі, удзельнічаючы ў працы разам з дарослымі, атрымліваюць неабходныя гаспадарчыя веды. Але сустракаюцца звесткі і аб адсутнасці частавання ўдзельнікаў талакі, што натуральна з улікам таго, што талаку склікалі часцей за ўсё незаможныя сяляне, і ўдзельнічаць у ёй магла вялікая колькасць людзей. «У сялянскім побыце талака, як і ўсялякая іншая дапамога, абыходзіцца без частавання. Нярэдка мірам выконваюцца вялікія работы толькі за славесную ўдзячнасць»[11].

Адпаведна можна заўважыць, што факт частавання быў істотным у сітуацыі, калі талаку склікаў нехта «звонку», і не меў вызначальнага значэння, калі талаку склікаў нехта з сялян-абшчыннікаў. «Прымета частавання пры работах талакой не можа лічыцца істотнай, бо яна мае месца толькі ў такіх выпадках, калі талаку збіраюць памешчыкі, святары, валасныя пісары і да т. п. асобы, якія не належаць да сялянскага асяродку»[12]. А. К. Сержпутоўскі сведчыць, што «паны» часта выкарыстоўвалі пачастунак гарэлкай за талаку на панскую патрэбу, каб не плаціць за сялянскую працу[13].

Замест частавання ўжываліся слоўныя формулы ўдзячнасці, якія разам з абавязковым запрашэннем на талаку гаспадаром (ці гаспадыняй у некаторых выпадках) з'яўляліся рэгулятыўнымі элементамі гэтай формы ўзаемаадносін. «Само сабой разумеецца, што пры такіх абставінах, калі на талаку збіраецца ўся вёска, не можа быць і гаворкі аб частаванні ў тым ці іншым выглядзе. Увечары ці па сканчэнні работы гаспадар дзячыць тым, хто прыняў удзел у талацэ, кажучы: "Дзякуй вам! Нехай вам Буог заплациц за турбацу!" Гэтым і заканчваецца талака»[14].

Паводле таго, хто склікаў талаку, яе можна ўмоўна падзяліць на «ўнутраную» і «знешнюю». Тут варта адзначыць, што святар, пісар, не з'яўляючыся часткай абшчыны, былі звыклым «элементам» сялянскага ладу існавання.

Талака рэгулявалася не толькі слоўнымі формуламі, але і комплексам павер'яў і ўяўленняў. «У дзень Палікопа (Св. Панцеляймон) пераважна ідуць на талаку да святара, па-першае, таму што святары ў гэты дзень моляцца за жнецоў, і, па-другое, аб гэтым дні ходзяць паміж просталюдзінамі забабонныя паданні»[15]. Паходжанне гэтых паданняў крыніца тлумачыць так: памешчык не пусціў на талаку да святара ў дзень Св. Панцеляймона сялян, дык маланкай спаліла яго хлеб, а хлеб святара, які рос па суседстве, не зачапіла[16].

«Народны звычай патрабуе не адмаўляцца ад запрашэння на талаку. Хто ўхіляецца ад дапамогі іншым, таму і грамадства не дапаможа ў бядзе. "Усіэ пад Богом ходзим", – кажуць беларусы, а таму яны строга выконваюць гэты звычай і ідуць на талаку нават да заможных аднавяскоўцаў, якія маглі б наняць рабочых, не звяртаючыся да грамадскай дапамогі. "Нехай нам Буог заплациц", – кажуць, калі багатыя людзі запрашаюць на талаку, спасылаючыся на беднасць, і дадаюць: "За неправўду их Буог скарае"»[17]. З дадзенага сведчання можна меркаваць, што не існавала механізма адмаўлення ў талочнай дапамозе, за выняткам індывідуальнай немагчымасці працаваць.

Як ужо адзначалася, шэраг прац, што выконваліся талакой, быў разнастайным. «Сюды адносяцца работы па ўладкаванню жытла, грэбляў, "езаў" (перагародкі ракі для лоўлі рыбы), калодзежаў і да т. п.»[18]. «Да апошняга часу талака ў сваім чыстым выглядзе мае месца пераважна ў такіх выпадках, калі адной сям'і не пад сілу справіцца з вялікай, цяжкай работай ці стыхійнымі бедствамі. Так, напрыклад, пажарам ці паводкай знішчаны пабудовы ці іншыя гаспадарчыя збудаванні: адна сям'я бездапаможная, і яна звяртаецца да грамадскай дапамогі»[19].

Як сведчаць крыніцы, у залежнасці ад тыпу працы талака магла складацца як з працаздольных прадстаўнікоў усёй вёскі, так і толькі з непасрэдных суседзяў ці, напрыклад, толькі з жанчын-жнеяк[20]. «Але асабліва характэрная талака, якая мае мэтай дапамагчы гаспадару, што пацярпеў ад пажару ці паводкі, калі ёсць патрэба ўзвесці новыя жылыя ці службовыя пабудовы. У такіх выпадках на талаку з'яўляюцца ўсе, хто чым можа дапамагчы: мужчыны – адныя пешыя з сякерамі, піламі і іншымі цяслярскімі інструментамі, другія на конях ці валах для вывазкі бярвенняў і іншых будаўнічых матэрыялаў, жанчыны і нават падлеткі для капання гліны, вырабу цаглін, нарыхтоўкі моху і да т. п.»[21].

Значнай з'яўляецца звестка пра тое, што талака можа складацца не толькі з асабістага ўдзелу ў калектыўнай працы, але і з перадачы пэўнай маёмасці. Той факт, што ўдзел у талацэ можна браць не толькі выконваючы фізічную працу, але і «ўказаннямі», сведчыць пра гаспадарчы падзел працы ў межах грамады. «Акрамя асабістай працы нярэдка ўдзельнікі талакі прыносяць з сабой па "кулю" (сноп) саломы ці чароту, па некалькі цаглін ці іншых будаўнічых матэрыялаў. Тут некаторыя, акрамя фізічнай працы, дапамагаюць сваімі будаўнічымі здольнасцямі ці ўказаннямі»[22].

На падставе пазначаных вышэй звестак з крыніц можна здзейсніць наступную тыпалагічную характарыстыку талакі. У межах дадзенага даследавання падзел варта правесці не столькі па відах працы, як прапануе Т. В. Валодзіна[23] (жніўная, сенакосная, будаўнічая і г. д.), колькі па іх умовах. Так, можна вылучыць талаку запланаваную і надзвычайную. Запланаваную ў сваю чаргу можна падзяліць на рэгулярную (жніво, сенакос і г. д.) і адносна нерэгулярную (дапамагчы пабудаваць хату ці гаспадарчыя пабудовы). Адпаведна прычынай незапланаванай талакі можа быць пажар, хвароба ці смерць асноўных працаўнікоў гаспадаркі.

Талаку таксама можна падзяліць на працу на карысць канкрэтнай гаспадаркі (жніво ці сенакос на пэўным палетку, будаўніцтва хаты) і працу на грамадскую карысць (рыццё грамадскага калодзежа, будаўніцтва грэблі і г. д.). У залежнасці ад тыпу, тэрміну і аб'ёму працы вызначаецца талака, на якую збіралася ўся вёска; на якую збіраліся толькі суседзі; на якую прыходзілі дасведчаныя ў пэўнай сферы абшчыннікі (апошні варыянт таксама можна лічыць своеасаблівай формай талакі, хоць ён ілюструе і сацыяльна-гаспадарчы падзел роляў у асяродку грамады).

Крыніцы сведчаць, што талаку мог склікаць не толькі гаспадар двара, але і гаспадыня. «*Ад суседзей даведаўся ён, што жонка за вядро гарэлкі сабрала толаку, перавезла хату ў Дубровіцу, а там родзічы мігам яе склалі на выгані*»[24] (курсіў перакладчыка. – *У. В.*). Своеасаблівай формай талакі можна лічыць дапамогу абшчыны пахаваць нябожчыка. «З плачам абыходзяць яны суседзяў, запрашаючы іх дапамагчы зрабіць труну і выкапаць магілу»[25]. «Адразу пасля смерці хатнія ідуць да суседзяў і клічуць у сваю хату з той верай, што так будуць клікаць святыя нябожчыка ў царства нябёснае»[26].

Трэба звярнуць увагу і на наступны аспект талакі. «Бываюць выпадкі, калі талака служыць свайго роду спортам. Тут збіраюцца лепшыя працаўнікі ці працаўніцы і ладзяць своеасаблівыя спаборніцтвы ў спрыце і ўмельстве працаваць. Канешне, такія спаборніцтвы могуць быць пры розных відах работ, калі збіраецца шмат працаўнікоў і ёсць перад кім пафарсіць спрытам ці павыхваляцца сілай і ўмельствам»[27]. «На талацэ лепш за ўсё спаборніцтвы дасягаюць сваёй мэты, а таму часцей практыкуюцца. Вось чаму запрашаюць на талаку для скошвання травы. Касцы бяруць лепшыя косы, доўга кляпаюць іх і адточваюць, а потым бяруцца за касьбу навыперадкі»[28]. Талака ў якасці спаборніцтва, з аднаго боку, задавальняла натуральную чалавечую патрэбу ў гульнёвым элеменце зносін, з іншага – была добрым заахвочваннем у працы і спрыяла яе плённасці.

Вылучаецца гульнёвая функцыя талакі. Пра касьбу навыперадкі падчас сенакоснай талакі сустракаецца наступнае апісанне: «Работа кіпіць, чуюцца падбадзёрлівыя выгукі, крыкі ўхвалення і кплівыя заўвагі і досціпы ў бок тых, хто адстае. Усё гэта выклікае жарты, прыгаворкі, смех і стварае такі вясёлы, бадзёры настрой, пры якім прадукцыйнасць працы моцна павялічваецца»[29]. Таксама сам працэс гульнёвага спаборніцтва, які суправаджаўся жартамі і кпінамі, здымаў псіхалагічнае напружанне ад магчымасці рэальнага спаборніцтва. Такім чынам, можна вылучыць яшчэ адну функцыю талакі – здыманне сацыяльнага напружання паміж абшчыннікамі. Але калектыўная праца, у тым ліку і ў форме спаборніцтва, мае і яшчэ адзін немалаважны аспект. Менавіта падчас талакі маладыя хлопцы і дзяўчаты шлюбнага ўзросту маглі найлепшым чынам прадэманстраваць свае працоўныя здольнасці. «Падобныя спаборніцтвы ў працы ладзяцца і жанчынамі ў час жніва талакою. Тут некаторыя, асабліва дарослыя дзяўчыны-нявесты напружваюць усе высілкі, каб заявіць перад мірам аб сваім спрыце і працаздольнасці»[30]. З улікам таго, што менавіта працавітасць і здольнасці, звязаныя з выкананнем рознага кшталту працоўных абавязкаў, былі адным з вызначальных момантаў пры выбары шлюбнага партнёра як для хлопцаў, так і для дзяўчат, можна вылучыць і яшчэ адну функцыю талакі, умоўна абазначыўшы яе як шлюбную. «Талака звычайна бывае ў невялікія святы, "прысвяткі". Сяляне ідуць на талаку "памагаці хлеба святога збіраці" бясплатна, за адно толькі частаванне, якое адбываецца часам з музыкай. На талаку звычайна ідзе моладзь з ахвотай, а асабліва тады, калі з ёю спалучаюцца абжынкі»[31].

Таксама варта абазначыць наступныя функцыі талакі, якія натуральна вынікаюць з характару гэтай формы зносін. А менавіта, эканамічная функцыя праяўляецца ў тым, што калектыўная дапамога дазваляе кожнай гаспадарцы захоўваць эканамічную самавітасць, выплачваць падаткі, не робячы запазычанняў і г. д.; функцыя захавання сацыяльнай стабільнасці характарызуецца тым, што кожны збяднелы (як і не збяднелы) селянін можа разлічваць на талочную дапамогу, што нівеліруе негатыўнае стаўленне да больш заможных суседзяў; сама патэнцыяльная магчымасць кожнага абшчынніка звярнуцца да талочнай дапамогі стварае атмасферу псіхалагічнага камфорту для ўсіх членаў грамады.

Таксама Т. В. Валодзіна на падставе вывучэння талочных песень і рытуальных элементаў талакі вылучае ў якасці адной з асноўных яе функцый – абрадавую[32].

Падсумоўваючы, можна пералічыць вылучаныя вышэй такія функцыі талакі, як: камунікатыўная; сацыялізацыі; эканамічная; захавання сацыяльнай стабільнасці; гульнёвая; псіхалагічная; шлюбная; абрадавая.

На падставе сабраных фактаў можна прыкладна абазначыць наступную верагодную структурную мадэль талакі: сітуацыя, суб'екты, матыў, атрыбуты, рэгулятары, працэс дзеяння, вынік, рэфлексія. Развіць дадзеную схематызацыю можна наступным чынам. Сітуацыя, якая патрабуе змянення, можа быць натуральнай (сезонныя гаспадарчыя работы) і надзвычайнай (стыхійнае бедства, хвароба, смерць). Сітуацыя вызначае характар працэсу, выбар суб'ектаў. Выбар суб'ектаў залежыць ад характару працы. Гэта могуць быць мужчыны, жанчыны, падлеткі, толькі мужчыны, толькі жанчыны; усё працаздольнае насельніцтва вёскі; толькі непасрэдныя суседзі; абшчыннікі, якія спецыялізуюцца на пэўнай дзейнасці, і г. д. Як правіла, гэта ідэя грамадскай узаемадапамогі, замацаваная звычаем. Таксама гэта магчымасць атрымаць дапамогу ў адказ. Матыў можа мець варыяцыі на індывідуальным узроўні. Абавязковымі элементамі з'яўляюцца пэўныя дзеянні (запрашаючы на талаку, абыходзяць усе хаты) і слоўныя формулы ўдзячнасці і запрашэння. Зыходзячы са звестак крыніц частаванне нельга лічыць атрыбутам, абавязковым элементам талакі, бо яно можа адсутнічаць і замяняцца слоўнымі формуламі ўдзячнасці. Тым не менш частаванне, талочныя песні можна назваць распаўсюджанымі элементамі талакі. Рэгулятарамі з'яўляюцца звычай (традыцыя пэўнага кшталту дзеянняў) і павер'і (уяўленне аб боскім пакаранні за адмову ўдзельнічаць у талацэ і г. д.). У дадзеным выпадку ўвага акцэнтуецца менавіта на працягласці дзеяння, падчас якога адбываецца працэс зносін. Вынікам, як правіла, з'яўляецца вырашэнне першапачатковай праблемнай сітуацыі, замацаванне ў грамадскай свядомасці самога дзеяння і яго вынікаў. Менавіта на рэфлексіі грунтуецца традыцыя.

Такім чынам, можна зрабіць выснову аб тым, што талака была складанай, шматаспектнай сацыяльнай з'явай у асяродку грамады і мела дакладна вызначаную рэгулятыўную сістэму, шматфункцыянальнае прызначэнне; усе элементы і функцыі талакі гарманічна спалучаліся. Найбольшая колькасць звестак з крыніц сустракаецца менавіта пра талаку, што сведчыць пра яе шырокую распаўсюджанасць. Талака была натуральнай сацыяльная з'явай, якую склікалі ледзьве ці не ўсе сяляне вясковай абшчыны.

БІБЛІЯГРАФІЧНЫ СПІС


1 Гл.: Рэдклифф-Браун А. Р. Структура и функция в примитивном обществе. Очерки и лекции : пер. с англ. М., 2001. С. 210.
2 Там жа. С. 210.
3 Там жа. С. 229.
4 Там жа. С. 20.
5 Малиновский Б. Научная теория культуры / пер. с англ. И. В. Утехина. 2-е изд., испр. М., 2005. С. 133.
6 Гл.: Рэдклифф-Браун А. Р. Пазнач. твор. С. 20.
7 Леви-Строс К. Структурная антропология / пер. с фр. Вяч. Вс. Иванова. М., 2008. С. 46.
8 Рэдклифф-Браун А. Р. Пазнач. твор. С. 13–14.
9 Сержпутовский А. К. Очерки Белоруссии. 3 : Ловля вьюнов. 4 : Талака. 1907. С. 210.
10 Сно Е. Э. В болотах Полесья. СПб., 1904. С. 12.
11 Сержпутовский А. К. Пазнач. твор. С. 210.
12 Там жа. С. 210.
13 Там жа.
14 Там жа. С. 212.
15 Чубинский П. П. Труды этнографическо-статистической экспедиции в Западнорусский край, снаряженной Императорским русским географическим обществом. Юго-западный отдел: Материалы и исслед., собр. действ. чл. П. П. Чубинским. СПб., 1872. Т. 3 : Народный дневник, изданный под наблюдением действ. чл. Н. И. Костомарова. 1892. С. 224.
16 Там жа. С. 224.
17 Сержпутовский А. К. Пазнач. твор. С. 211.
18 Там жа. С. 210.
19 Там жа. С. 210–211.
20 Гл.: Сно Е. Э. Пазнач. твор. С. 12.
21 Сержпутовский А. К. Пазнач. твор. С. 212.
22 Там жа. С. 212.
23 Гл.: Валодзіна Т. В. Талака ў сістэме духоўнай культуры беларусаў. Мінск, 1997. С. 14–15.
24 Пяткевіч Ч. Рэчыцкае Палессе / пер. з пол. Л. Салавей і У. Васілевіча. Мінск, 2004. С. 573.
25 Сно Е. Э. Пазнач. твор. С. 16–17.
26 Булгаковский Д. Г. Пинчуки // Записки Императорского Русского географического общества. СПб., 1890. Т. 18, вып. 3. С. 185.
27 Сержпутовский А. К. Пазнач. твор. С. 212–213.
28 Там жа. С. 213.
29 Там жа.
30 Там жа.
31 Чубинский П. П. Пазнач. твор. С. 253.
32 Гл.: Валодзіна Т. В. Пазнач. твор. С. 79.


Паступіў у рэдакцыю 23.10.2013.

***Наталля Мікалаеўна Карбалевіч*** – аспірантка кафедры этналогіі, музеялогіі і гісторыі мастацтваў. Навуковы кіраўнік – кандыдат гістарычных навук, дацэнт, загадчык кафедры этналогіі, музеялогіі і гісторыі мастацтваў Т. А. Навагродскі.